


**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 46 (276) — Нядзеля 13 лістапада 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Трагэдыя Нямеччыны ў Жэнэве

### Першая рунда Жэнэўскай канфэрэнцыі закончылася

У пятніцу 4 лістапада ўдзельнікі Жэнэўскай канфэрэнцыі перарвалі свае нарады й часова разьехаліся: Молатаў адляцеў у Маскву, Пінэ й Мэк Мілян у свае сталіцы Парыж і Лёндан, а міністар замежных справаў ЗША Дальлес выехаў на спатканьне зь югаславянскім дыктатарам Цітам. У Жэнэве прадаўжаецца толькі нарада экспэртаў над апошнім пунктам парадку дня канфэрэнцыі — над пытаньнем разьвіцьця кантактаў між Захадам і Ўсходам.

Але ня толькі гэты перарыў нарадаў дае падставы гаварыць, што першая рунда канфэрэнцыі закончылася, але й тое, што адзін з найважнейшых яе пунктаў — справа Нямеччыны — зьяўляецца ўжо поўнасьцю вычарпаны, ня прывёўшы да якога-небудзь хоць-бы частковага пагадненьня й не пакінуўшы ніякай надзеі, што нейкі выхад можа яшчэ быць знойдзены. Некаторыя заходнія абсэрватары выказваюць думку, што Молатаў магчыма атрымае цяпер у Маскве новыя інструкцыі, якія дазволяць хоць часткова выйсьці із сьляпога завулка, у які зайшлі жэнэўскія нарады ў нямецкім пытаньні. Таму ўвесь заходні сьвет чакае зь вялікай увагай другой і, праўдападобна, апошняй рунды канфэрэнцыі ў Жэнэве. А покуль яна распачнецца, дазволім сабе зрабіць білянс дасюлешніх нарадаў у нямецкім пытаньні.

### Супярэчныя пляны Захаду й Масквы

Падчас дасюлешніх нарадаў найбольшая ўвага была зьвернутая на першы пункт парадку дня — на пытаньне задзіночаньня Нямеччыны й эўрапэйскай бясьпечнасьці. Міністры трох заходніх дзяржаваў прадставілі 28 кастрычніка сёлета ў форме супольнага мэмарандуму свой плян задзіночаньня Нямеччыны, які быў-бы першай передумовай да заключэньня пакту эўрапэйскай бясьпечнасьці. Паводля гэтага пляну, задзіночаньне Нямеччыны павінна быць дасягнутае шляхам вольных выбараў на тэрыторыі ўсяе Нямеччыны, якія мусілі-б быць праведзеныя ў 1956 годзе. Задзіночаная Нямеччына, у залежнасьці ад жаданьня насельніцтва, магла-б быць сябрам Атлянтычнага пакту, а, як рэкампэнсата за гэта, быў-бы заключаны пакт у справе гарантыяў бясьпечнасьці для Савецкага Саюзу й ягоных сатэлітаў. Молатаў заняў дыямэтральна іншае становішча і высунуў дамаганьне, каб спачатку быў заключаны «агульны эўрапэйскі пакт калектыўнай бясьпечнасьці ў Эўропе», да якога мелі-б прыступіць, як асобныя раўнапраўныя партнэры, Нямецкая Фэдэральная Рэспубліка і ўсходняя г. зв. Нямецкая Дэмакратычная Рэспубліка да часу іхнага задзіночаньня. Пры гэтым Молатаў у сваей мове з асаблівым націскам падчыркнуў, што перадумовай для будучага задзіночаньня Нямеччыны ёсьць ня толькі неналежаньне Нямеччыны да Атлянтычнага пакту, але й мусяць быць дадзеныя гарантыі, што **«дэмакратычна-сацыяльныя дасягненьні» Ўсходняй Нямеччыны будуць захаваныя і ў задзіночанай Нямеччыне.** Што-ж датычыцца пакту эўрапэйскай бясьпечнасьці, дык Молатаў паставіў дамаганьне, што Атлянтычны пакт і Заходня-Эўрапэйская Вунія мусяць быць разьвязаныя.

Міністры трох заходніх дзяржаваў аднагалосна адкінулі праект Молатава й паўтарылі сваё дамаганьне, што нельга далей дыскутаваць над гэтым пытаньнем, пакуль Молатаў не пазнаёміць іх з савецкім плянам у справе задзіночаньня Нямеччыны. У вадказ на гэта Молатаў, заявіўшы, што справа задзіночаньня Нямеччыны належыць перадусім да кампэтэнцыі нямецкага народу, запрапанаваў запрасіць у Жэнэву прадстаўнікоў абодвых нямецкіх урадаў і выслухаць іхныя пагляды, робячы гэтым спробу дабіцца вызнаньня ўсходнянямецкага рэжыму канфэрэнцыяй і тым самым Захадам. Ён пры гэтым паклікаўся на ўзаемнае вызнаньне між Боннам і Масквой, дасягнутае падчас апошняй візыты Адэнаўэра ў Маскве. Але заходнія міністры гэты манэўр Молатава спрытна выкарысталі супраць яго самога. Дальлес у гэтай справе асьветчыў: «Калі факт навязаньня нармальных дыпляматычных дачыненьняў між Савецкім Саюзам і Заходняй Нямеччынай павінен тут адыйграць якую-небудзь ролю, дык гэтая роля можа быць толькі наступная: урад Адэнаўэра ёсьць адзіным нямецкім урадам, які ёсьць вызнаны ўсімі намі. Ён тады павінен быць адзіным запрошаным намі на канфэрэнцыю». Францускі міністар замежных справаў пайшоў яшчэ далей, заявіўшы: «Для нас ёсьць немагчымым запрасіць на канфэрэнцыю ўрад г. зв. Нямецкай Дэмакратычнай рэспублікі, бо ён ня быў свабодна выбраны і таму ня можа рэпрэзэнтаваць нямецкага народу ўсходняе зоны. Затое мы будзем ахвотна весьці перагаворы із свабодна выбраным урадам усяе Нямеччыны. Дык як тады стаіць справа із свабоднымі выбарамі ў цэлай Нямеччыне?»

Калі сталася ясным, што Гротэволь ня будзе запрошаны ў Жэнэву, Молатаў перайшоў да пытаньня эўрапэйскай бясьпечнасьці. Адцеміўшы, што прыгатаваны ў гэтай справе плян Ідэна яго цікавіць асабліва ў тэй частцы, дзе прадугледжваецца ўстанаўленьне зоны абмежаваных і кантраляваных збраеньняў між Усходам і Захадам. Молатаў заявіў, што гэтая зона ня можа праходзіць уздоўж ўсходняй граніцы задзіночанай Нямеччыны, але паабапал граніцы між Усходняй і Заходняй Нямеччынай. Пры гэтым Молатаў дадаў, што існуючыя Атлянтычны пакт, Заходня-Эўрапэйская Вунія і Варшаўскі блёк могуць на неазначаны час астацца ў сіле й пасьля заключэньня ўсходня-заходняга пакту бясьпечнасьці. Для заходняй дэлегацыі адразу сталася ясным, куды цаляе Молатаў: **паразуменьне між Усходам і Захадам на базе статусу кво і падзелу Нямеччыны, пры чым падзеленая Нямеччына і ў сваёй заходняй часьці знаходзілася-б пад савецкай кантроляй (нагляд за абмежаваньнямі збраеньняў згодна «пляну Ідэна»). Такое разьвязаньне нямецкага пытаньня было-б паваротам на дзесяць год назад — да потсдамскай канцэпцыі.**

### Нямецкі плян Молатава

Тымчасам 2 лістапада ўрад савецкай зоны Нямеччыны зьвярнуўся да чатырох вялікадзяржаваў і «да нямецкага народу» з мэмарандумам, галоўныя пункты якога паўтарыў Молатаў у сваім «Дамаганьні супрацоўніцтва між абедзьвюма нямецкімі дзяржавамі й стварэньня перадумоваў для разьвязаньня нямецкага пытаньня й задзіночаньня Нямеччыны». Гэтае «дамаганьне» і было савецкім праектам у справе Нямеччыны, які толькі цяпер быў пададзены да ведама.

Гэты савецкі плян адсоўвае пытаньне задзіночаньня Нямеччыны ў далёкую будучыню, а займаецца выключна радам агульных і несканкрэтызаваных мерапрыемстваў, якія не даюць ніякай пэўнасьці, што могуць прывесьці да нямецкага адзінства й задзіночаньня. Гэтак Молатаў і ўрад Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі прапануюць стварэньне Агульнанямецкай Рады, як дарадніцкага воргану заходнянямецкага і ўсходнянямецкага парлямантаў і пакліканьне мяшаных заходня-ўсходніх урадавых камісіяў. Заданьні Агульнанямецкай Рады зводзіліся-б да наступных пунктаў: **1. Вывучаць і абгаварваць агульнанямецкія пытаньні; 2. «каардынаваць» мілітарныя мерапрыемствы для забясьпечаньня нямецкіх граніцаў; 3. «каардынаваць» нямецкі ўдзел у пакце калектыўнай эўрапэйскай бясьпечнасьці.** І гэта ўсё! Аб кардынальных пытаньнях, як спосаб і тэрмін задзіночаньня Нямеччыны, агульнанямецкія выбары і міжнароднае становішча задзіночанае Нямеччыны, ня сказана ані слова.

Прадстаўнікі заходніх дзяржаваў не знайшлі навет базы ў гэтым праекце для дыскусіі, які, разам з папярэднімі дамаганьнямі Молатава, зьмяшчае ў сабе немагчымыя да прыняцьця наступныя пункты: **1. захаваньне падзелу Нямеччыны на неазначаны час і вызнаньне яго вялікадзяржавамі; 2. вызнаньне ўсходнянямецкага ўраду, як легітымнай сілы й прадстаўніцтва нямецкага народу; 3. адсутнасьць гарантыяў, што стварэньне Агульнанямецкай Рады адбудзецца на дэмакратычных асновах і будзе накіраванае да задзіночаньня Нямеччыны; 4. адсутнасьць усякіх гарантыяў для эфэктыўнай бясьпечнасьці заходнянямецкай рэспублікі й усей Нямеччыны; 5. зьнішчэньне або загроза дэмакратычных свабодаў у Нямецкай Фэдэральнай Рэспубліцы і праводжаньне «чыстак» на ўсходні манер; 6. дэзарганізацыя заходнянямецкай гаспадаркі.**

На падмацаваньне пазыцыі Молатава прадстаўніцтва ўсходнянямецкага ўраду на чале зь дзяржаўным сакратаром Гандкэ склікала 3 лістапада ў Жэнэве прэсавую канфэрэнцыю. Назваўшы Заходнюю Нямеччыну «гняздом ваенных падпальшчыкаў, ваеных праступнікаў і нацыстых», Гандкэ выступіў з наступнымі цьверджаньнямі: **1. у Нямецкай Фэдэральнай Рэспубліцы няма ніякіх перадумоваў для вольных выбараў, затое ў г. зв. Нямецкай Дэмакратычнай Рэспубліцы гэтыя перадумовы ёсьць; 2. задзіночаньне Нямеччыны ёсьць немагчымае без правядзеньня структуральных рэформаў палітычнага, грамадзкага й гаспадарскага жыцьця, г. зн. рэ-**


(Заканчэньне на 2-ой бачыне)


# Сьнежань — месяцам беларускае кніжкі

На працягу двух папярэдніх 1953 і 1954 гадоў мы абвяшчалі месяц ліпень месяцам беларускае кніжкі, і ў гэтым месяцы прадстаўнікі й прыхільнікі нашага Выдавецтва зьбіралі на падпісныя лісты ўва ўсіх краінах расьсяленьня беларускае эміграцыі складкі на выдавецкі фонд беларускае кніжкі Выдавецтва «Бацькаўшчыны». Практыка, аднак, паказала, што ліпень, які зьяўляецца ў большыні краінаў летнім месяцам адпачынку й урлёпаў, ня быў выгадным для гэтае акцыі. Улічваючы гэта, Выдавецтва «Бацькаўшчыны» сёлета месяцам беларускаае кніжкі абвяшчае **сьнежань** і гэткай практыкі будзе трымацца і ў будучыні.

У сувязі з гэтым у сьнежні нашыя прадстаўнікі й сымпатыкі будуць зьяўляцца із спэцыяльнымі падпіснымі лістамі на афіцыяльных блянках газэты «Бацькаўшчына» да нашых суродзічаў з просьбаю даць, у меру магчымасьцяў і добрае волі кажнага, адпаведную складку на выдавецкі фонд беларускае кніжкі.

Гэтыя складкі ня будуць ніякімі беззваротнымі ахвярамі, а толькі, як і ў папярэдніх гадох, **заплатай наперад** за беларускія кніжкі, якія дагэтуль выйшлі і будуць выдадзеныя ў будучыні Выдавецтвам «Бацькаўшчыны», выбраныя собсьнікам складкі поводля нармальнае цаны дадзенае кніжкі.

Выдавецтва «Бацькаўшчына» зьяўляецца сяньня адзінай выдавецкай установай, якая займаецца сыстэматычным выданьнем найлепшых твораў беларускае як клясычнае, гэтак і сучаснае эміграцыйнае літаратуры і, пачынаючы **ад** 1952 году, да гэтага часу выдала ўжо 8 наступных салідных кніжак: **1. «Новая Зямля» Якуба Коласа, 2. «Тутэйшыя» Янкі Купалы, 3. «Раськіданае Гняздо» Янкі Купалы, 4. «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, 5. «Нядоля Заблоцкіх» Лукаша Калюгі, 6. «Спадчына» — выбар паэзіі Янкі Купалы, 7. «Сымон Музыка» Якуба Коласа, 8. «Ля чужых берагоў» — альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў.**

Тры апошнія кніжкі, якія зьяўляюцца найбольш цэннымі спасярод выдадзеных дагэтуль, найпрыгажэй аформленыя й абыймаюць разам **1048 бачынаў** друку вялікага фармату, былі выдадзеныя ў бягучым 1955 годзе. Гэта паказвае, што бягучы год быў найбольш плодным у працы нашага Выдавецтва.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Яшчэ да канца бягучага году выйдзе **зборнік мастацкае прозы Власта (Вацлава Ластоўскага)**, а ў наступным 1956 годзе Выдавецтва плянуе, між іншым, выдаць нарыс **Юркі Віцьбіча «Плыве з пад Сьвятой Гары Нёман», аповесьць Якуба Коласа «У палескай глушы», выбраныя паэзіі Максіма Багдановіча, беларускія народныя казкі для дзяцей і вялікі зборнік твораў «узвышэнскіх» паэтаў** з нагоды прыпадаючай у наступным годзе 30-ай гадавіны Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня «Ўзвышша».

Рэалізацыя гэтага вялікага пляну будзе залежыць ад дапамогі ўсяго нашага грамадзтва. А гэтая дапамога, як успаміналася, ня будзе выражацца ў беззваротных ахвярах, а ў арганізаваным купляньні выдадзеных нашым Выдавецтвам кніжак.

Аб вялізарнай нацыянальнай ролі роднага друкаванага слова гаварыць ня прыходзіцца. Спасярод усіх іншых нацыянальных дзейнікаў роля мастацкае літаратуры на чужыне выключная. Яна зьвязвае нас духова з родным краем, дае нам сілу ператрываньня, родзіць веру ў перамогу нашае справы. Ясна, напасьледак, зьяўляецца найлепшым спосабам прапаганды нашае нацыянальнае справы сярод чужых народаў.

Таму, абвяшчаючы чарговы месяц беларускае кніжкі, мы хочам верыць, што ўсе нашыя суродзічы чула адгукнуцца на нашую акцыю.

Сёлетні месяц беларускае кніжкі мы праводзім пад лёзунгам: **«Не павінна быць аніводнага Беларуса, у якога ня было-б усіх кнігаў Выдавецтва «Бацькаўшчыны»!**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Беларускі Чырвоны Крыж

Справы, справы! Што за бясконцая чарга іх топчацца перад нашым парогам. Стаяць здаўна, некаторыя гадамі цэлымі і цярпліва чакаюць, пакуль мы ў сваёй штодзённай мітусьні ды дзяньгубстве возьмемся ўрэшце й за іх. Сярод гэтага натоўпу зыркае вока ўгледзела-б адну вельмі занядбаную постаць із сьціплым невялічкім значком Чырвонага Крыжа. Гэта тая праца, аб якой нам трэба было-б падумаць ды з усёй сур'ёзнасьцяй заняцца ёю. Праца, якую праводзіць у кажным грамадзтве, дзяржаўным ці безьдзяржаўным, дабраахвотная арганізацыя Чырвоного Крыжа.

☆

### Канкрэтныя заданьні

Пачнем перш з аднаго канца.

У 1944 годзе асноўная маса сяньняшняе беларускае эміграцыі — адны ў цягнікох, другія на вазох, а іншыя самі ўпрэжаныя ў каляскі — з трывогай сунулася на Захад. Па дарозе здаралася ўсё. І ці ў ваднаго з нас перад вачыма канчалі свой шлях сябры й прыпадковыя знаёмыя. Дзесьці на Бацькаўшчыне засталіся іхныя сваякі — жонкі, дзеці, браты... Часта мы былі адзінымі сьведкамі трагічнага разьвітаньня з жыцьцём нашых спадарожнікаў. Бадай кажны з нас носіць у сваіх спамінах тайніцы людзкое долі. Мы маем захаваныя ў сабе адказы на тысячы пытаньняў, якія ставяць сабе дзесьці на Беларусі зьнявераныя ахвяры ваеннае завірухі.

☆

Ёсьць штосьці містычнае вакол сьмерці чалавека. Ёсьць містыка вакол ягонае магілы. Ёсьць штосьці нявымоўна цяжкое ў невядомасьці ды няпэўнасьці, у змаганьні надзеі й сумлеваў аб згубленых намі дарагіх асобах. Ёсьць, урэшце, нейкая дзіўная — балючая спачатку — палёгка, калі дазнаецца нешта канкрэтнае, хоць і сумнае, аб іхнай долі.

Нядаўна, калі ў нямецкі пагранічны гарадок Фрыдлянд пачалі прыбываць транспарты звольненых бальшавікамі нямецкіх ваеннапалонных, дык туды зьехаліся з усяе Заходняе Нямеччыны тысячы асобаў, што дзень і ноч стаялі ля месца перагрузкі з абвесткамі й здымкамі, каб хоць што-небудзь даведацца пра лёс сваіх пагубленых у вайне родзічаў. Пэўна-ж, людзей гэтых вяла на пошукі надзея даведацца штосьці добрае, пацяшаючае. Аднак удумаймася ў зьявішча, і мы ўбачым глыбейшы рухавік гэтага шматтысячнага паломніцтва. Гэта своеасаблівая людзкая натура, якая ў сілу свае прыроды ня церпіць невядомага й няпэўнага.

☆

Цяпер пачнем з другога канца.

Мы ўсе спадзяемся (а шмат хто з нас верыць) вярнуцца дамоў. Мы імкнемся да гэтага павароту. Мы прагнем сустрэчы з тымі, хто дзесьці зь ня меншым жаданьнем, чымся мы, чакае на гэтую сустрэчу. Уявім сабе на часіну, што такая сустрэча адбылася пасьля «ікс» гадоў. Колькі пытаньняў будуць задаваць нам і знаёмыя й незнаёмыя! Сярод іх напэўна будуць ставіцца й пытаньні аб тых, сумнага заканчэньня долі каго мы былі адзінымі сьведкамі.

Не абавязкова, праўда, рабіць зь сябе носьбітаў толькі дрэнных вестак. У шуканьні разьвязак гэтае праблемы трэба прадбачваць шмат што. Ня можна, прыкладам, выключаць і магчымасьці, што «зялезная заслона» нейкім дзіўным зьбегам абставінаў станецца раптам «драцяной сеткай» (як зь Югаславіяй, скажам), праз якую можна будзе кажнаму савецкаму грамадзяніну БССР бяз ніякай рызыкі пачынаць хоць пісьмовыя пошукі сваіх пагубленых дзесьці на Захадзе сваякоў. Да каго-ж яны павінны будуць зварочвацца з запытаньнямі? Да ўсіх нашых згуртаваньняў, аб'яднаньняў ды задзіночаньняў?

Прызнаемся тут, што прыведзеныя вышэй гіпатэзы могуць здацца не аднаму з нас нярэальнымі. Аднак закранутая праблема збору ў вадно месца вестак, асабліва аб тых, каго ўжо няма між нас, належыць арганічна да лёгікі нашага прабываньня на чужыне.

### Спробы разьвязкі праблемы

Брацца за такую працу — гэта брацца за няўдзячную справу. Да гэтага, — за цяжкую справу, за марудную й складаную. Усё гэта камплікуецца тым, што такое заданьне мае сваю спэцыфіку. Заняцца ім, прыкладам, зусім немагчыма ў Нямеччыне, дзе няма ня толькі патрэбнае бясьпекі (у выпадку вайны), але й «распакаваных чамаданаў». Нельга рабіць гэтага і ў Францыі, хоць-бы сабе з гледзішча на адсутнасьць дадзеных пямешканнага парадку ды з гледзішча усё на тую-ж бясьпеку. Коратка: заняцца гэтай справай можна было-б або ў ЗША, або ў Канадзе, дзе ёсьць на гэта і людзкая, і матар'яльная база. Аб гэтым мусілі-б падумаць і памеркаваць управы БАЗА ды ЗБК. У кажным выпадку, заняцца гэтай працай мусіла-б салідная і аўтарытэтная грамадзкая інстытуцыя. А гэта дзеля таго, што складаньне прапанаванае тут картатэкі асабістых дадзеных зьвязана з пэўным даверам да арганізацыі, якая гэта будзе праводзіць.

Хоць, паўтараем, галоўным чынам мы маем наўвеце дадзеныя аб тых, што пагінулі ці паўміралі (дата й абставіны сьмерці, месца пахаваньня й г. д.). У гэткім выпадку, асабістыя весткі будуць вымагаць менш дыскрэтнасьці ды цягнуць за сабой менш небясьпекі ў сувязі з нашым палітычным палажэньнем.

Урэшце, заснаваная дзеля гэткіх мэтаў арганізацыйная адзінка (ці рэфэрат) магла-б навязаць лучнасьць з галоўнай кватэрай Чырвонага Крыжа ды магчыма падаваць і туды ўсе дадзеныя й весткі аб параськіданых на чужыне беларускіх магілах.

**Ар**

# Крыху аб пісаньні

Надовечы тэлефануе да мяне Будзіч. «Знаеш, — кажа, — атрымаў я ліст з Аўстраліі. Між іншага, ёсьць там цікавая зацемка аб «Бацькаўшчыне». «Хваляць ці ганяць?» — пытаюся, ведаючы, што звычайна бывае адно ці другое.

Каб не займаць шмат часу — вось зьмест гэтае зацемкі: «Бацькаўшчына» апошнімі часамі займае амаль нэўтральную лінію што да праблемаў нашага эміграцыйнага жыцьця ды наагул траціць свой баёвы тон.

Падобныя зацемкі, закіды ці парады — рэч зусім натуральная для кажнае газэты. У нашым выпадку шкада, праўда, што яны ня публікуюцца ў форме лістоў у рэдакцыю. У гэткім выпадку і чытачу было-б цікава даведацца, што думаюць іншыя, ды напэўна заахвоціла-б яго выказаць сваю собскую думку, і рэдакцыі напэўна было-б карысна ведаць пажаданьні чытачоў. Зрэшты, гэта ўжо справа рэдакцыі імкнуцца, каб кантакт між ёй і чытачамі быў як найбольш ажыўлены. Аўтар-жа гэтых радкоў хоча закрануць агульна пытаньне тону беларускае газэты як такой, не абавязкава «Бацькаўшчыны», ды ня менш важнае пытаньне падыходу да пісаньня ў газэту.

Перадусім трэба зацеміць, што журналістым ніхто ня родзіцца і не стаецца ім аўтаматычна пасьля заканчэньня якоесь журналістычнае школы ці курсаў. Бязумоўна, трэба мець пэўны прыроджаны нахіл да пісаньня. Але толькі самым пісаньнем, сыстэматычнай практыкай у гэтым кірунку, разьвіваюцца патрэбныя дадзеныя для журналістага. Да гэтага даходзіць яшчэ веданьне ў практыцы пэўных прынятых у журналістыцы этычных правілаў.

У 42 (272) нумары «Б-ны» быў зьмешчаны заклік у справе дасыланьня ў газэту карэспандэнцыяў зь месцоў расьсяленьня нашае эміграцыі, а таксама паясьненьні, якім вымогам павінны адказваць гэтыя карэспандэнцыі. Там асабліва падкрэсьлівалася патрэба своечасовасьці, дакладнасьці й аб'ектыўнасьці.

Як-жа выглядае беларуская эміграцыйная прэса на фоне гэтых вымогаў, ды перадусім дзьвюх апошніх.

Трэба прызнацца, што ў гэтым пытаньні бываюць выпадкі, калі мы набліжаемся да прэсы партыйнай. У чым-жа асаблівасьць такое прэсы? Гэта перадусім наяўнасьць двух розных стыляў, двух слоўнікаў, у залежнасьці да таго, ці пішацца аб праціўніку, ці аб прыхільніку. Прыхільнік, калі гэта адзінка, дык — шляхотны, ахвярны, здольны і г. д., калі арганізацыя — моцная, добра зарганізаваная, рэпрэзэнтатыўная й г. д.. Праціўнік — усё адваротнае вышэйсказанаму. Звычайная партыйная прэса дапушчае гэта сьведама, як псыхалягічнае ўзьдзеяньне на масы. У нашай эміграцыйнай прэсе такое зьявішча зьяўляецца непажаданым: чарніць нутранога праціўніка, замоўчваць ягоныя пазытыўныя дасягненьні — гэта паслабляць наш агульны патэнцыял; абмяжоўвацца-ж толькі да лаяньня вонкавых ворагаў — гэта абмяжоўваць і звужваць небясьпеку, што нам пагражае. Што, скажам, дасьць нашаму чытачу наступны радок: «Чырвоныя крывапіўцы задушацца пад цяжарам народнае крыўды». Вось-жа, нажаль, пад цяжарам самое крыўды яны не задушацца. І дзеля таго замест пустых трыбунных фразаў лепш належна прадыскутаваць мэтады змаганьня з бальшавізмам.

Наагул-жа ў пісаньні аб ворагу ці прыхільніку трэба, на нашу думку, менш кіравацца сэрцам, а больш розумам, бо інакш малюнак атрымоўваецца карыкатурным і далёкім ад праўды, а, зн чыць, разьмінаецца з сваёй мэтай: праўдзівым інфармаваньнем чытача.

Асобны выпадак становяць дыскусіі ў прэсе, вось як гэта было нядаўна ў «Б-не» што да «распакоўваньня» й «сумлеваў». Трэба прызнаць, што ў дадзеным выпадку, за малымі выняткамі, яны праходзілі на высокім узроўні. У гэтым жанры трэба чэсна падыходзіць да выказваньняў інакш думаючага. Тут, маючы дрэнную волю, можна так зацытаваць сказ праціўніка, што думка будзе поўнасьцяй перакручана, і праціўнік будзе абвінавачаны ў тым, чаго ён зусім не сказаў. Здараюцца выпадкі, што падобны цытаваны сказ хвальшыва інтэрпрэтуецца. Тут магчымасьці неабмежаваныя. Хопіць, скажам, узяць вышэйсказанае: «мы набліжаемся да прэсы партыйнай» і пасьля даць наступны камэнтар: «А што, не казалі мы, што „Бацькаўшчына" зьяўляецца партыйным ворганам? Вунь у нумары 46 (276) самі прызнаюцца». Нярэдка-ж у дыскусіях тыпу «адказ на...», аўтар, калі ня мае належных аргумэнтаў ці ня ўмее іх выкладзіць, пушчае ў ход зласьлівасьць, асабістыя дацінкі, насьмешкі, ці проста ачорнівае праціўніка. Якая-ж цана тады такому адказу? Каго ён пераканае?

Аб адным жанры, рэпартажах, у «Б-не» ўжо шырока пісалася. І тады падкрэсьлівалася іхная стандартная форма ды празьмерная колькасьць у іх абабітых супэрлятываў. Між іншага, трэба зацеміць, што мы вельмі баімося ў рэпартажах з паасобных імпрэзаў паказваць на тыя ці іншыя недацягненьні, і выходзіць тады, што быццам у нас усё й заўсёды атрымоўваецца гладка. А шкада, бо прааналізаваўшы прычыны такіх недацягненьняў, можна было-б іншым разам пазбыцца іх.

Не малую ролю грае таксама лексыкон аўтара. Прыкладам, у ваднэй дапісцы ў «Б-ну» (неапублікаванай), аўтар хочучы як найбольш заклаймiць брыдкія ўчынкі аднаго з суродзічаў, называе яго «асабень». Ці-ж, калі-б аўтар яго назваў «асобай», дык гэта не памесьцілася-б зь ягонымі дрэннымі ўчынкамі? Вульгарныя й абразьлівыя звароты ўсё-ж, на нашу думку, не павінны мець месца ў нашай прэсе.

Цяпер хацелася-б крыху спыніцца на самай «баёвасьці» тону газэты. Як разумець гэтую баёвасьць? Можна пісаць аб малаважных рэчах ці навет зусім другарадных, але баёвым, напышаным стылем і з ужыцьцём адпаведных «гучных» словаў. Можна таксама закранаць асноўныя праблемы, але зусім спакойна й рэчова. Нам здаецца, што г. зв. «баёвасьць», якой асабліва славілася наша рататарная прэса ў першыя пасьляваенныя гады, асаблівых карысьцяў нам ня прынесла. Заместа таго, каб імкнуцца разьвязваць ды насьвятляць агульна нацыянальныя праблемы, а таксама дбаць аб нашую ўдзельную вагу ў вачох чужынцаў, мы марнавалі свой агульны высілак навокал штучна ствараных праблемаў. Тымчасам беларуская прэса мае столькі канкрэтных агульных заданьняў, дзе патрэбна ня нейкая спэцыяльная «баёвасьць», а ўсебаковае насьвятленьне, дыскутаваньне й рэчовае абмяркоўваньне іх, тым больш, што гэтая прэса аж зашмат сьціплая сваімі памерамі.

**А. Галубіцкі**

# Мала вядомыя творы Янкі Лучыны

Янка Лучына быў адным з папулярных беларускіх пісьменьнікаў-дэмакратаў другое половы XIX ст. Як сьветчаць новыя матар'ялы, паэта друкаваў свае творы ня толькі ў газэце «Мінскій Лісток», шматлікіх календарох-гадавікох і інш. Ён зьмяшчаў таксама свае вершы ў газэце «Северо-Западное Слово» і ў польскім часапісе «Вісла». Незадоўга да сьмерці Янка Лучына прымаў захады выдаваць беларускую газэту, але дазволу не атрымаў. Адказам на гэта быў вядомы верш паэты «Сівер», у якім у алегарычнай форме выкрываецца цяжкі нацыянальны і сацыяльны прыгнёт.

Ёсьць дадзеныя, што незадоўга да сьмерці Янка Лучына пазнаёміўся з творчасьцяй Ф. Багушэвіча і навет перапісваўся зь ім. Дзе гэтыя лісты? Пакуль што яны яшчэ ня знойдзены.

Удалося затое знайсьці вельмі цікавыя два вершы Янкі Лучыны: «Усёй трупе Дабрадзея Старыцкага — беларускае слова», «Дабрадзею артысту Манько» і безназоўны ўрывак зь п'есы.

Творы гэтыя пашыраюць нашае ўяўленьне аб літаратурна-мастацкай дзейнасьці паэты ды сьветчаць аб ягонай шчырай любові й пашане да брацкага ўкраінскага народу ды ягонага мастацтва. Названыя вершы былі напісаны пад уражаньнем, якое зрабілі на паэту спэктаклі славутай украінаскай трупы Старыцкага. Трупа неаднаразова выступала з гастрольнымі спэктаклямі ў Менску, і Янка Лучына меў, такім чынам, поўную магчымасьць шырокага азнаямленьня з украінскім тэатральным мастацтвам. Пад яго уплывам паэта і сам задумаў напісаць беларускую п'есу і, відаць, скончыў яе, але да нас, нажаль, дайшоў толькі фрагмэнт, без пачатку й канца.

Усё гэта красамоўна сьветчыць аб арганічных культурных сувязях, якія здаўна існавалі паміж беларускім ды ўкраінскім народамі. «Усёй трупе Дабрадзея Старыцкага ...» і «Дабрадзею артысту Манько» упяршыню былі апублікованы ў часапісе «Нёман» (№2 за 1932 год, Вільня), які выдаваўся зусім малым тыражом і цяпер зьяўляецца бібліяграфічнай рэдкасьцяй. Верш «Усёй трупе Дабрадзея Старыцкага — беларускае слова» друкаваўся таксама ў скарочаным выглядзе і пад адвольнай назвай у хрэстаматыі зь беларускае літературы XIX ст. для пэдагагічных інстытутаў. У ніводзін із зборнікаў паэты гэтыя творы ня ўключаліся.

**С. Майхровіч**

# Разрастаецца Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

Трыццаць тры мілі на ўсход ад Торонто над возерам Антарыё ляжыць прамысловы горад Ашова. Ён мае сорак тысяч насельніцтва, бальшыня якога ўтрымліваецца з працы на вялікіх аўтамабільных хвабрыках Джэнэрал Моторс.

У вапошнім часе гэты прамысловы гарадок стаўся аселішчам колькі дзесяткаў Беларусаў што пазьяжджаліся сюды з розных канцоў Канады. Хаця аб Беларусах Ашавы нічога дагэтуль у прэсе ня было чуваць, аднак не сядзелі яны ціха. У Торонто адгэтуль толькі паўтары гадзіны язды аўтам ці аўтабусам. Ашаўскія Беларусы ўжо не адзін раз наведвалі Беларускую Праваслаўную Царкву імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Торонто, супольна з торонтонцкімі нашымі родзічамі ладзілі сёлета маёўкі, сваймі ахвярамі дапамагалі ў куплі Беларускага Дому ў Торонто.

Сьведамыя тага, што ў арганізацыі сіла, ашаўскія Беларусы таксама задумалі згуртавацца. 29-га кастрычніка сёлета на памешканьні аднаго з актыўнейшых сваіх сяброў сп-ра Ю. Харэвіча сабраліся яны, каб прадыскутаваць справу ўтварэньня мясцовае арганізацыі. Як гасьцей, запрасілі з Торонто настаяцеля Беларускае Царквы імя Сьв. Кірылы Тураўскага а. Міхаіла і старшыню Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе, сп-ра К. Акулу.

Усе адназгодна прыйшлі да высnaву, што ўжо надыйшоў час, каб мясцовае беларускае жыцьцё ўзяць у арганізацыйныя рамкі і пастанавілі залажыць праваслаўнае брацтва. Выбрана часовая ўправа ў складзе: сп. Воўна — старшыня, сп-р Ф-н — скарбнік і сп-ня Курыкшук — сакратарка. Госьці з Торонто падзяліліся з прысутнымі шматлікімі парадамі з арганізацыйна-царкоўнага жыцьця. Айцец Міхаіл згадзіўся прыяжджаць няпэрыядычна ў Ашаву, дзела адпраўляньня багаслужбаў, а таксама і праводзіць духовую апеку над мясцовымі вернікамі. Першым заданьнем царкоўнае грамады будзе прыдбаньне пастаяннага месца дзеля зборак і багаслужбаў, наступна адкрыцьцё беларускае школы для сваіх дзетак.

На нядзелю 6-га лістапада назначаны агульны сход Беларусаў Ашавы, які мае заняцца далейшымі арганізацыйнымі справамі.

**К.**

# Перасяленьне баброў зь Беларусі

У «Беларускім Зборніку» (кніга 2) сп. Яловіч у вадным з артыкулаў апісвае, між іншага, Беларускі (Бярэзінскі) запаведнік, галоўнае прызначэньне якога — гэта ахова баброў. Вось-жа бабры, гэтыя каштоўныя сваімі хутравымі скурамі зьвяры, у мінулым бясплянава вынішчаліся і сяньня іх прыходзіцца ахоўваць. Але й цяпер яшчэ паводля колькасьці баброў Беларусь займае адно зь першых месцаў у СССР. Сустракаюцца яны ня толькі ў запаведніку, але й вонках яго ды асабліва на Бярэзіне, Нёмане й Сожы.

Як падае «Советская Белоруссия», за пасьляваенныя гады было вылаўлена больш за 1500 штук баброў і вывезена за межы БССР, асабліва ў паўночныя раёны Савецкага Саюзу.

Кажны год у Беларусь прыяжджае спэцыяльная экспэдыцыя заацэнтру галоўнае ўправы паляўнічае гаспадаркі, якая й займаецца вылоўліваньнем гэтых каштоўных зьвяроў. Экспэдыцыя прыцягвае да свае працы мясцовых спрактыкаваных паляўнічых, якія добра ведаюць ходы баброў. Асабліва славяцца ўменьнем лавіць баброў вядомыя беларускія палаяўнічыя Белафонаў і Масарэнка. Гэтая цяжкая прафэсія перадаецца ў гэтых сем'ях па спадчыне. За адзін сэзон паляўнічыя вылоўліваюць па 100-150, а часамі й больш, баброў, якія ў сярэднім важаць па 18-20 кіляграмаў; нядаўна-ж было злоўлена 2 вельмі рэдкія эгзэмпляры, што важылі па 54 кіляграмы.

Сам працэс лоўлі баброў — даволі складаны. Яны днём не паказваюцца і іх трэба высьледжваць досьвіткам. Да ўсходу сонца паляўнічы стараецца заўважыць бабра, каб сьцьвердзіць, дзе ён пасяліўся. Удзень, пры сонечным сьвятле ён разглядае на дне ракі ходы да бабровае «хаты». Калі нара заўважана, пры выхадзе ставіцца пастка сплеценая з дроту. Цяпер застаецца толькі спалохаць бабра, які баіцца галоснага стуку ды асабліва брэху сабакі. Ён кідаецца да выхаду ды пападае ў пастку.

Пастку ўцягваюць у лодку й накідаюць на яе пакрывала, і бабры, прывыклыя да цемені, адразу супакойваюцца. Іх чакае цяпер далёкае падарожжа ў спэцыяльных клетках. Клеткі дастаўляюцца ў Стоўпцы й адгэтуль накіроўваюцца на Бійск, Цюмень і іншыя паўночныя раёны СССР. Апошнімі часамі высылаюць баброў таксама ў Калінінградзкую вобласьць.

У вадным з папярэдніх нумароў «Б-ны» мы пісалі, што зь Белавескага запаведніку вывозяцца зубры ў розныя часткі СССР. Як бачым — гэта не адзін выпадак. Жывёльны сьвет, як і іншыя прыродныя багацьці Беларусі, эксплятуюцца й рабуюцца бальшавікамі сыстэматычна.

— Ці мала на сьвеце дурняў? — зноў дадаў а. Кірыл.

Матушка вяла сваё:

— Ну, то што? Хіба жаніхом сьвіней не падкладаюць?

— Гэта было-б не па-хрысьціянску.

— Затое-ж па-кавалерску.

— З паліцыяй мець справы небясьпечна, — зазначыў а. Кірыл.

— Глуш там у вас, вучыцелька!

— Усе вы, панове, у глушы жывіцё, а глушы баіцёся. І ў глушы людзі жывуць. Мне, матушка, навет падабаецца такая глуш.

— Праўда, у пана падлоўчага дочкі падрастаюць, — гнула матушка сваю лінію, — і кажуць, старэйшая вельмі прыгожая, ужо зусім паненкаю выглядае.

— Ня ведаю: ня быў у іх.

— Што гэта вы так мала паненкамі цікавіцеся? ... О, хітруеце вы, вучыцелька!

— Ёсьць тут цікавіцца чым, — зноў буркнуў а. Кірыл.

Матушка ўстала, узяла папяросы, сама закурыла і гасьцей патрактавала. Айцец Кірыл ня курыў, але набіваць папяросы любіў, і цяпер узяўся за гэту работу.

У пакой увайшла служанка — паляшучка, крэпкая чырвонашчокая дзяўчына.

— Да вас, бацюшка, Апанас Каваль прышоў; просіць хворую прычасьціць.

— Хто ў яго хворы?

— Жонка.

— Скажы, зараз іду, — сказаў а. Кірыл. — Я скора вярнуся — тут блізка, а вы, калі ласка, пачакайце мяне, — зьвярнуўся ён да гасьцей.

Айцец Кірыл надзеў цёплую расу, узяў крыж і ўсе патрэбныя рэчы і выйшаў.

— Эх, папоўская служба! — уздыхнула матушка: — Навет і адпачыць няма калі. А ён слабы, хворы, ногі чуць цягае. Народ у нас, вучыцелька, грубы, дзікі. Вось вашы, вучыцелька (слова «вучыцелька» матушка выводзіла ласкальна ад «вучыцель»), цельшынцы зусім іншыя людзі. А нашых вам ніхто не пахваліць. Вы ведаеце такое здарэньне? Айцец Кірыл — гэта ўжо гады два таму назад — быў на сенакосе. Распусьціў сена, сушыць. А едзе адзін наш — ёсьць тут такі грубіян — проста па бацюшкавым сене! Айцец Кірыл і кажа, падыйшоўшы: «Ці табе, кажа, дарогі няма, ці ня можаш аб'ехаць, што ты па сене з канём топчашся?» А той, нічога не гаворачы, схапіў бацьку за валасы і давай церабіць! Прыходзіць мой бацюшка; як глянула-ж на яго — аж у яго каўтунікі павырываны! Так і лезуць, так і лезуць!

Матушка апавядала гэта проста, навет зь нейкім гумарам.

— Народ наш, трэба сказаць праўду, грубы, дзікі. Аднаго толькі ўрадніка і баяцца, аднаго яго і паважаюць. А хто ўжо лепш можа дагадзіць ім, як не а. Кірыл? — зноў казала матушка: — І зямлю ім аддаў, і сенакос, і лякарствы дае, і добрым словам памагае. Ніколі ні ў чым ім не адмаўляе.

Праз поўгадзіны вярнуўся а. Кірыл, утомлены і хмурны.

— Ну, як-жа іх, гадаў, ня лаяць? — у гневе прамовіў а. Кірыл: — Чорт ведае, чым кормяць хворую, і гаворыш ім, прыказваеш, не — сваё робяць! ... А гразь! ... Сьвіньні, сьвіньні!

Крыху супакоіўшыся, а. Кірыл сказаў да матушкі ціха:

— Зашлі ты ёй цераз Параску чаго.

А ўсё-такі, а. Кірыл, вы многа лепшы за тых, хто пра народ гаворыць высокія словы.

Айцец махнуў рукою.

— Вось што, другі: будзем абедаць.

## VII

Дзервяная сьцена аддзяляла кватэру Лабановіча ад школьнае залі, і, каб папасьці туды, трэба было толькі адчыніць нізкаватыя дзьверы. Як толькі разднела і ўзышло сонца, пачалі зьбірацца вучні. Кажны іх крок, кажны рух і вымаўленае слова чуліся ў кватэры настаўніка.

Яшчэ ўчора прайшоўся стараста Раман Круглы па вёсцы, заказваючы сялянам пасылаць у школу дзяцей. То таму, то другому, спаткаўшыся па вуліцы, гаварыў ён:

— Пасылайце заўтра дзяцей у школу!

Пры гэтым стараста рабіў сур'ёзную міну і, наогул, меў начальніцкі выгляд. Яго чырвоны кажух з шырокім, як засланка, каўняром зьяўляўся ў розных месцах вуліцы. Калі патрэбныя старасту асобы ня сустракаліся, ён падыходзіў да акна, стукаў пальцамі ў шыбы:

— Гэй, Кандрат! Падыдзі-тка сюды!

Калі Кандрата ня было ў хаце, стараста падзываў Алену або Параску і таксама срога казаў:

Пасылайце заўтра дзяцей у школу!

Выпаўніўшы свой абавязак, Раман зайшоў у школу.

— Дома паныч? — ціха запытаў Раман старожку.

— Дома, стараста, дома! — крыху нарасьпеў прамовіла бабка.

Лабановіч чуў гэту размову.

— Заходзьце, стараста, заходзьце!

Стараста разоў два затрубіў носам. Дзьверы ад кухні рыпнулі. Адна палавіна іх адчынілася, а другая затрэслася ад націску шырокага пляча старасты.

Ступіўшы крокі два, Раман перайшоў увесь пакоік-спальню і апынуўся на парозе другога. Кажны яго крок адбіваўся на падлозе мокраю плямаю, а на вялізарных лапцішчах ён нёс столькі гразі, што добраму гаспадару і на сахор ня выбраць.

— Ну, як маецеся, стараста?

— Хвала Богу; паныч як здароў?

— Вось што, стараста: не называйце вы мяне панічом, бо я не паніч, і бацька мой такі-ж самы мужык, як і вы.

Лабановіч папрасіў старасту прысесьці на канапу, бо кволае крэсла, якіх тут было ўсяго толькі два, наўрад ці вытрымала-б яго сьвязістае і дзябёлае тулава.

Стараста, па звычаю ўсіх паляшукоў, меў доўгія валасы. Рыжая бародка, вузкая і выгінастая, і крыху хмурны погляд спадылба рабілі старасту падобным да званковага караля. Зьвярнуўшы ўвагу на яго здаравецкі склад, на шырокую расхлістаную грудзіну, на якой яшчэ значыліся сьляды летняга загару і адбіткі вятроў, Лабановіч мімаволі ўспомніў яго бацьку Рыгора, які, як зазначыў Сьцяпан Рылка, браў старасту на рукі, як хлапчанё.

«Крэпкі народ, хоць і жыве ў балотах», — падумаў Лабановіч.

— Дык ужо вучыцімеце?

— Так, стараста, трэба пачынаць.

— Ну, я ўжо заказаў, каб пасылалі хлопцаў у школу.

— Чаму-ж толькі хлопцаў? Трэба, каб і дзяўчаткі хадзілі.

— Дзе яны пойдуць? — махнуў рукою стараста: — Скажы ім пра школу, дык будуць сьмяяцца; вельмі дзіўным ім гэта пакажацца. Хоць-бы хлапчукі ўсе пайшлі.

Лабановіч, наколькі мог, тлумачыў старасту, што і дзяўчаткам таксама вучыцца трэба, і даводзіў, скуль гэта патрэба вынікае.

Стараста слухаў, прыплюшчыўшы вочы, і толькі згаджаўся:

— Гэта так, панічок ...

— Гэта вы справядліва кажаце.

— А вядома так.

— Што праўда, то праўда.

Але настаўнік бачыў па твары старасты, што ўсе аргумэнты зусім ня пераконвалі яго ў тым, што дзяўчатам трэба навука. Што навука трэба мужчынам (а навуку стараста разумеў, як уменьне чытаць, пісаньне-ж — ліха яго бяры, безь яго можна абыйсьціся лягчэй!), стараста не спрачаўся. Справа службы вымагала хадзіць у воласьць. А там надаюць яму цэлую кучу розных папер і загадаў. То трэба было павесткі на суд даставіць па прыналежнасьці, то нядоімку сыскаць з каго, то лісты перадаць.

**(Далей будзе)**

